

## ПАЛІТЫЧНАЯ СЦЭНА

# ЛІСТ ПРЭЗЫДЭНТУ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Паважаны прэзыдэнт!

У апошні час на старонках беларускіх газет пачалі друкавацца артыкулы пра наш беларускі сувэрэнітэт, пра нашу мову й адносіны да іх Прэзыдэнта асабіста.

На маю думку, гэтыя кароценькія артыкулы чытачоў часам бываюць рэзкаватымі, таму што Аляксандр Рыгоравіч зьяўляецца чалавекам сумленным і ніколі ня пойдзе на прамую ліквідацыю беларускай дзяржаўнасьці й беларускай мовы пасьля таго, як паклаў руку на нашу Канстытуцыю ў час прыняцьця ім Прысягі, хоць апошнія яго выказваньні "о воссоединении" мне таксама не падабаюцца й насьцярожваюць. Сябраваць з вялікай суседкаю трэба, рабіць і надалей абмен на роўных нашых беларускіх трактароў, лядоўняў, тэлевізараў і г.д. на расейскія тавары й сыравіну таксама трэба, але падаць перад ёю на калені, адмаўляцца ад роднай мовы не да твару маладой дзяржаве й яе Прэзыдэнту. Расея сама за гэта будзе нас "презирать".

Я не зьбіраўся пісаць у "Пагоню", а спрабаваў спачатку зьвярнуцца на гэты конт да Прэзыдэнта асабіста, але ж датэлефанавацца ў час прамога эфіру на тэлестудыю па міжгародняй сувязі практычна немагчыма.

Таму хацеў бы, каб "Пагоня" надрукавала маё пажаданьне Прэзыдэнту пачынаць у будучым пакрыху рабіць свае выступы на беларускай мове. Прэзыдэнт Беларусі павінен ведаць беларускую мову! Тое ж самае можна пажадаць і паважаным спадарам яго каманды Д.Булахаву, В.Ганчару й іншым.

Думаю, што ад гэтага яны ўсе толькі моцна выйграюць. Упэўнены, маю думку падзяляюць многія тысячы й тысячы тэлегледачоў, чакаючых ад Прэзыдэнта роднага беларускага слова. Канешне, па сабе ведаю, зрабіць гэта адразу цяжка, і ня мы ў гэтым вінаватыя, што дзесяцігоддзямі таптался наша матчына мова.

І ўсё ж у далейшым Прэзыдэнту і яго арганізацыі трэба спрабаваць гэта рабіць.

Вельмі хацелася б, каб Аляксандр Рыгоравіч сказаў пару слоў на гэты конт нашай шматтысячнай аўдыторыі ў пачатку альбо напрыканцы свайго чарговага выступу ў прамым эфіры.

Добра разумею й такі магчымы накірунак разважаньняў Прэзыдэнта: тут зараз эканоміку ратаваць трэба, якая на вачах развальваецца, стрымаць гіпэрінфляцыю, задушыць карупцыю й мафію і г.д., а да яго зьвяртаюцца ў зусім ня зручны час з лінгвістычнымі праблемамі.

І Прэзыдэнт меў бы рацыю на ўсе 100 працэнтаў, каб гэта было толькі лінгвістычнае пытаньне. На самай жа справе гэта, калі хочаце, пытаньне жыцьця альбо сьмерці нацыі, бо, як казаў у свой час У.І.Ленін, "без национального языка нет национальной культуры, без национальной культуры нет нации". Як кажуць у такіх выпадках, камэнтары не патрэбныя.

Руская мова - мова сапраўды вялікага народа, мова Пушкіна, Лермантава, Тургенева, Талстога, Чэхава й г.д. - ніколі ня згіне й не заглохне, калі б гэтага хтосьці й надта хацеў. А вось наша родная, калі яе не падтрымаць, заглохнуць можа, як гэта ўжо ня раз было ў мінулым. Увядзеньне дзяржаўнага двухмоўя гэтаму таксама пасрыяе.

І балюча глядзець на дэпутатаў ВС, якія, відаць, перад заканчэньнем тэрміну сваіх паўнамоцтваў у ВС і карыстаючыся адсутнасьцю цьвёрдай пазыцыі па гэтаму пытаньню з боку Прэзыдэнта, хочуць узьняць на верасьнёўскай Сэсіі пытаньне аб усталяваньні двухмоўя, аб пераглядзе нашай дзяржаўнай сымволікі й атрыбутыкі, адным словам, зрабіць апошні "падарунак" беларускаму народу. Скажу яшчэ раз, я ня супраць рускай мовы й тых, хто на ёй размаўляе, але ж "пляскаць у далоні й радавацца, што "хворая маці" (беларуская мова) можа памерці", як нядаўна сказаў аб менскіх студэнтах у час іх сустрэчы з Прэзыдэнтам Ніл Гілевіч, лічу амаральным з любога пункту гледжаньня. Лічу, што мы зрабілі памылку, скасаваўшы ў новым беларускім пашпарце графу аб нацыянальнасьці. Цалкам згодны з народным паэтам П.Панчанкам і яго артыкулам "Хітрасьць русіфікатараў". Да яго я таксама пісаў аб гэтым, але мой голас быў "гласом вопиющего в пустыне". Дык давайце ня зробім цяпер яшчэ горшай памылкі. Маці-мова павінна жыць!

І апошняе. Нядаўна паважаны Аляксандр Рыгоравіч сказаў: "Что мы от этого лучше жить стали, что улицы переименовали?" Так. Што праўда, то праўда: ня толькі ня лепш, але й значна горш. Але не па прычыне частковага перайменаваньня, а па прычыне чатырохгадовага бязьдзеяньня папярэдніх кіраўнікоў.

Самім жа частковым перайменаваньнем, паважаны Прэзыдэнт, зроблены першы маленькі крок да адраджэньня нацыянальнай сьвядомасьці беларусаў, ушанаваньня беларускіх сьвятынь і сьвятых імёнаў.

Скажу яшчэ раз, я ня супраць вялікіх рускіх пісьменьнікаў і паэтаў, але, прабачце, якое дачыненьне яны маюць да тых куткоў Беларусі, дзе я жыву й дзе мне прыходзіцца бываць: Горадня (вуліцы Пушкіна, Горкага), Менск (вуліцы Калініна, Някрасава)?

Я, напрыклад, хацеў бы жыць і памерці не на вуліцы Аляксандра Пушкіна ці Максіма Горкага, хоць і паважаю іх, а на вуліцы другога Максіма - Максіма Багдановіча, і з запісам у пашпарце аб тым, што я ўсё-такі беларус.

**М.А.СЬЛЕСАРЧУК.**

# НЯХАЙ ЗАБЯРУЦЬ ВАЎКІ ТАГО САБАКУ, ЯКІ НА СВОЙ ХВОСТ БРЭША

## УРАЖАНЬНІ ПАСЬЛЯ ВЫСТУПУ А.ЛУКАШЭНКІ

На жаль, пакуль што значная частка нашага грамадзтва аніяк ня можа пазбавіцца атавізмаў "саўковага" мысьленьня, што прывяло людзей да вельмі небясьпечнай хваробы, так званага постімпэрскага, постсавецкага дэбілізму. Сымптомы гэтае хваробы я бачу ў прамовах Лукашэнкі. Ягоная заява, што ў прэзыдэнты яго абрала большасьць беларускага народа, мякка кажучы, не адпавядае рэчаіснасьці. Чаму?

1. У другім туры выбараў за яго аддалі свае галасы 80 працэнтаў людзей, якія прынялі ўдзел у выбарах. Пагадзіцеся, што гэта ня ўвесь беларускі народ, і нават не яго палова. Што гэта? Самападман? Ці сьвядомае вешаньне локшын на вушы жыхароў Беларусі, сусьветнаму супольніцтву? Я схіляюся да другога.

2. Калі ў першы тур выбараў не былі сфальсіфікаваныя вынікі ва Ўсходняй Беларусі, то невядома, ці стаў бы Лукашэнка прэзыдэнтам. Вядома, што за яго аддалі свае галасы людзі, якія не ўсьведамляюць сябе як народ Незалежнае Краіны, дэнацыяналізаваныя, люмпэнізаваныя, з нізкім адукацыйным узроўнем, таксама маргіналы. Але ачмурэньне гэтых людзей ад голага папулізму Лукашэнкі, яго абяцанак-цацанак пройдзе, яму давядзецца плаціць па ваксалям, якія ён раздаваў направа й налева.

Сьвядомыя беларусы, разумныя людзі іншых этнасаў галасавалі за Незалежную, Нэйтральную Беларусь, якую атаясамлівалі з З.Пазьняком і С.Шушкевічам. Не лічыцца з мільёнамі прыхільнікаў Незалежнай Беларусі Лукашэнкі будзе небясьпечна, бо электарат ягоны з кожным днём зьмяншаецца, усё гэта аб'ектыўная зьява. Лукашэнка цьвердзіць, што ён першы народны прэзыдэнт. Ну які ж ён "народны"? Мовай народа грэбуе, калі ў сваіх прамовах устаўляе слова-другое па-беларуску, то толькі каб выкрыць "ворагаў народа", прадстаўнікоў апазыцыі БНФ, БСДГ, БСП і іншых.

У.Караткевіч пісаў: "Нельга есьці хлеба народа, і грэбаваць ягонаю моваю". А Лукашэнка можа. Пад яго кіраўніцтвам пачаўся непрыхаваны наступ на беларускую мову, на незалежнасьць Беларусі (ягоная заява, што беларусы і расейцы - гэта ўсё рускія, што беларусы мараць аб "воссоединении со старшим братом"). Увогуле, ад словазлучэньня "старший брат" так і патыхае смуродам сталіншчыны. Гэта нядзіўна, бо Лукашэнка ўзяў у звычку гаварыць аб сабе, як гэта рабіў і Сталін, у трэцяй асобе. "Лукашэнка ведае тое, Лукашэнку даручана тое". Але гэта толькі адзін аспект.

Гаворачы пра расейцаў, што яны - "старший брат", ён не ўсьведамляе, што абражае іх. Пад узьдзеяньнем беларускіх казак ня толькі ў мяне склаўся пэўны стэрэатып на конт старэйшых братоў. Як правіла, ў нашых казках яны паказаны як дурні, абібокі, а малодшы заўсёды кемлівы, працавіты, які, спадзеючыся толькі на сябе, дасягае ўсяго. Лукашэнка гаворыць, што ў Беларусі з Расеяй агульная гісторыя, культура, лёс, што ў расейцаў, беларусаў аднолькавы мэнталітэт. А што можа быць агульнага паміж катам і ахвярай? Хіба што сякера ці эшафот! У беларускай мове няма брыдкаслоўя накшталт расейскага мата. Агульная ж гісторыя пачалася пасьля анэксіі Беларусі, калі яна была вырвана з кантэксту эўрапэйскай цывілізацыі, апынулася пад ярмом.

Плён "агульнай гісторыі" - жахлівы генацыд, разрабаваньне культурна-гістарычных каштоўнасьцяў, мэтанакіраванае зьнішчэньне беларускай мовы, беларускай самасьвядомасьці. Адным словам, гісторыя калоніі.

Наконт мэнталітэту. У беларусаў няма імпэрскіх памкненьняў, амбіцый, няма мэнталітэту сусьветнага Дзяржыморды й Лёні Галубкова. У рэшце рэшт, у кожнага народа свой лёс, свая гісторыя, свая культура, свой мэнталітэт.

Лукашэнка на сустрэчы ў пэдагагічным унівэрсітэце казаў, што ён - гісторык-настаўнік. Такіх "настаўнікаў-гісторыкаў" я б на гарматны стрэл да дзяцей не падпускаў, бо вучань Абэцэдарскіх ня можа выхоўваць патрыётаў Радзімы. А калі ён і эканаміст такі самы, як і гісторык, нічога добрага для Беларусі ня будзе, а нас чакаюць цяжкія выпрабаваньні.

У псіхалогіі ёсьць так званы эфэкт люстра (іншым людзям мы схільны прыпісваць тое, што ведаем пра сябе). Лукашэнка гаворыць, што ён ведае, чаго жадае народ, зробіць усё дзеля гэтага. Ён думае, што народ, як і ён, жадае ўз'яднаньня з Расеяй, двухмоўя, вайсковых хаўрусаў, адраджэньня імпэрыі. А вось тут Лукашэнка блытае паняцьці "народ" з "натоўпам", з якім ён сустракаўся на перадвыбарчых зборышчах. Так, народу на сутрэчы з ім у Горадні я ня бачыў, я бачыў натоўп замбаваных "саўкоў", якія вышэй свайго пуза нічога ня бачаць. Для іх слова "свабода" - пусты гук. Я лічу, што ня можа быць Прэзыдэнтам Беларусі чалавек, які зьяўляецца апалагетам імпэрыі, ворагаў беларускай мовы, Незалежнай Беларусі.

Гісторыя ўсё паставіць на сваё месца. Кебічы, лукашэнкі ня вечныя. Вечны беларускі народ! Вечная Беларусь! Каб увайсьці ў гісторыю Беларусі ў адзін шэраг з такімі людзьмі, як Еўфрасіньня Полацкая, Вітаўт Вялікі, К.Астрожскі, Скарына, Касьцюшка, Каліноўскі, Генюш, Караткевіч, Ткачоў, Карпюк і іншыя, ня трэба прымерваць на сябе боты Сталіна або апалеты Мураў'ёва-вешальніка, бо марная гэта справа.

Жыве Беларусь!

**А.ЗАХАРАЎ.**

# ПАМЯЦІ АХВЯР

Пры Гарадзенскім аблвыканкаме зарэгістраваны статут Асацыяцыі "Прымірэньне і спакой". Асацыяцыя - гэта саюз грамадзкіх аб'яднаньняў. Яе заснавальнікі - Гарадзенскі вабласны цэнтр нямецкай культуры, Саюз палякаў на Беларусі і Фонд сацыяльнай абароны былых ваеннаслужачых. Асацыяцыя вядзе сваю дзейнасьць толькі на тэрыторыі Гарадзенскай вобласьці й мае на мэце: - аднаўленьне месц пахаваньня ваеннаслужачых, загінуўшых у Першай і Другой сусьветных войнах; - стварэньне банку дадзеных аб месцах пахаваньня шляхам выкарыстаньня архіўнай інфармацыі, а таксама сьведчаньняў жыхароў Гарадзеншчыны; - "Прымірэньне і спакой" таксама будзе ажыцьцяўляць рэстаўрацыю помнікаў і мастацка выканаых пабудоў, арганізоўваць выставы фатаграфій і жывапісу, прысьвечаных ахвярам войн у барацьбе за мір.

Дырэктарам асацыяцыі "Прымірэньне і спакой" прызначаны ветэран ВАВ Г.П.Гаршкоў, намесьнікам абраны таксама ветэран ВАВ Г.І.Гнядзэк.

**Андрэй МІЛЬЛЕР, старшыня Савету асацыяцыі "Прымірэньне і спакой".**

# ВОЎК, ЯГНЯ Й БІТВА КАЛЯ ВОРШЫ

"Это паліцічаскі шантаж!"- заявіў прэзыдэнт Рэспублікі Беларусь 16 верасьня на сустрэчы з прадстаўнікамі мясцовых органаў улады, калі меў на ўвазе народнае шэсьце й сьвята з нагоды Дня беларускае вайсковае славы - угодкамі перамогі над Масковіяй. - "Там... (у Маскве - заўвага аўтара) нас поймут," - працягваў прэзыдэнт. - "Там понимают, что у нас есть кучка политиканов..." і г.д., і г.д.

Не зусім да твару першай асобе ў рэспубліцы такія заявы. Не прынясуць яны гонару народу, ад імя якога любіць выступаць прэзыдэнт-гісторык. Але такога зыходу падзеяў варта было чакаць. Гэта ўжо мала ўражвае. Уражвае іншае: псіхалогія мысьленьня прамоўцы. У перадвыбарчай кампаніі моднымі былі слоўцы "палітыканства" й "папулізм". Сёньня так прэзыдэнт называе тых, хто ня згодны з яго палітыкай. Атрымліваецца, што ў гэту кагорту няўгодных трапляюць і тыя, хто за абуджэньне нацыянальнай годнасьці, вяртаньне нацыянальнай паўнавартасьці, хто за пазбаўленьне гістарычнага бязпамяцтва...

Здрадніцкая гэтая псіхалогія ў адносінах да свайго народу.

"Там нас понимают..." - і пагроза ў будучым забараніць такія імпрэзы - гэта ні што іншае, як неўсьвядомленая дэманстрацыя свайго ўласнага страху перад "старэйшым", ад якога залежыць усё для "малодшага". Гэта панічны страх быць ня так "понятым". Каб хаця ж не падумалі штосьці кепскае пра "малодшых", каб хаця ж не ўлічылі ў помыслах і дзеяньнях, скіраваных быццам бы супраць іх (на сёньня такім аргумэнтам, відаць, зьяўляецца й дзяржаўная мова). Гэта ні што іншае, як страх бязьвіннага Ягня (як тут не згадаць вядомую байку Крылова): "Когда светлейший Волк позволит...", каб хаця ж не парушыць, не замуціць вады, каб хаця ж ніхто не згадаў пра даўнейшае, калі быў каламут...

Гэта псыхалогія страху няўпэўненага ў сваіх дзеяньнях чалавека.

Але мараль тут адна: "У сильного всегда бессильный виноват..." , што рана ці позна здарыцца, толькі пры такіх адносінах набудзе іншую фармулёўку: у старэйшага заўсёды меншы вінаваты. І гэта гістарычныя рэаліі: "Тому в Истории мы тьму примеров слышим..." Толькі ня трэба пасьля шукаць вінаватых. Што можа быць з такім разуменьнем суадносінаў гістарычных падзеяў, нацыянальнай годнасьці-й патрэб сучаснага палітычна-эканамічнага моманту?

**Янка ТРАЦЯК.**




# КАРЫТАС – ГЭТА РЭАЛЬНАЯ ДАПАМОГА

**Колькі год грамадзяне Беларусі ведаюць дабрачынную міжнародную каталіцкую арганізацыю "Карытас" па рэальных справах. З дапамогай "Карытас" беларускія дзеткі адпачывалі ў замежжы, ахвяры Чарнобыльскай катастрофы атрымлівалі лекі, адзеньне, ежу. Нядаўна пры Гарадзенскай каталіцкай эпархіі створана філія гэтай дабрачыннай арганізацыі. Офіс Гарадзенскай філіі "Карытас" месьціцца па вуліцы Вялікая Траецкая, 50, кв.2. Прэзыдэнтам яе абраны Біскуп Аляксандр Кашкевіч, віцэ-прэзыдэнтам ксёндз Анатоль Маркоўскі, размову з якім мы і прапануем Вашай увазе.**

- Дабрачыннасьць "Карытас" вядомая ў сьвеце. Яго прадстаўнікі заўжды там, дзе гэта патрэбна. Наша дзяржава - таксама зона рызыкі. Таму "Карытас" ужо даўно апякуе Беларусь. Менавіта вопыт і падказаў нам стварыць тут, на Беларусі, філію. Найперш я езьдзіў больш як на два тыдні на спэцыяльныя студыі да Варшавы. Потым аб задуме давялі нашаму вабласному кіраўніцтву. Атрымалі паразуменьне і вось гэтае памяшканьне.

**- Ксёндз Анатоль, прайшло прыкладна два месяцы, як вы атрымалі пасьведчаньне аб рэгістрацыі. Што зроблена гарадзенскім "Карытас"?**

- Нашу працу нельга разглядаць толькі праз прызму дабрачыннасьці. Дзейнасьць "Карытас" надзвычай разнастайная. Адным мы дапамагаем матэрыяльна, другім - маральна. Калі згадаць пра рэальныя справы, то скажу, што фактычна ў першыя дні пасьля рэгістрацыі пры пасярэдніцтве нямецкай філіі "Карытас" да Горадні прывезьлі вялікую партыю вопраткі, якую разьмеркавалі паміж маламаёмаснымі. Другая акцыя - разьмяркаваньне харчаваньня для хворых дзяцей. Трэцяе, пра што трэба ўспомніць, - вялікая партыя пасьцельнай бялізны для дзіцячых шпіталяў. Днямі, пры дапамозе "Карытас" на Магілёўшчыну й Гомельшчыну дасланы лекі. Як бачыце, усё зроблена ў такі кароткі тэрмін.

**- Што найактуальнае сёньня ў вашай справе?**

- Наладжваньне разнастайных кантактаў з замежнымі дабрачыннымі арганізацыямі ў Эўропе, Амэрыцы, Аўстраліі. Чым больш мы наладзім такіх кантактаў, тым больш зможам зрабіць добрых спраў на Беларусі. Зараз у Горадню прыехала дэлегацыя манашак з Нямеччыны. Яны на месцы жадаюць вызначыць, што ў першую чаргу патрэбна нам. Зазначу, што нямецкіх калегаў больш за ўсё цікавяць дзіцячыя прытулкі, школы-інтэрнаты. Думаю, што дзякуючы міжнароднаму аўтарытэту "Карытас" мы здолеем зрабіць мноства добрых і патрэбных спраў для Беларусі і яе грамадзян. Каб пераканацца ў гэтым, запрашаю вас зайсьці сюды праз якія паўгады.

**Распытваў Г.АСТРОЎСКІ.**

# ЯК СЕЛЯНІН З ВЁСКІ ДУБНА СТАЎ ГАРАДЖАНІНАМ

- Нарадзіўся я ў вёсцы Дубна, што ў Мастоўскім раёне, - успамінае Сьцяпан Фёдаравіч Гарачка. З малых гадоў бацькі прывучалі да сялянскай працы і я яе палюбіў. Зямлі было ўсяго тры гектары, але жылі нічога, таму што бацькі ўмелі гаспадарыць на ёй. У хлявах стаялі конь, карова, маладняк, авечкі, сьвіньня й птушка. А каб яшчэ лепш жыць матэрыяльна, бацька мяне адправіў пасьвіць кароў вяскоўцаў, за што я зарабляў і грашыма і натурай, частка якой ішла на рынак. Здавалася, што майго сялянскага ўкладу жыцьця ніхто не парушыць. Але...

У сорак чацьвёртым годзе ўзялі ў армію, дзе тэрміновай службы "адгрохаў" аж сем гадоў. Бацька памёр у год майго прызыва. На пахаваньне не адпусьцілі, хаця можна было - служыў у Бабруйску.

У пачатку 1951 года вярнуўся з войска, а ў Дубна ўжо калгас "Першае мая". Маці ў



ім працавала, але на працадні атрымлівала, "што кот наплакаў", сама жыла за кошт прысядзібнага надзелу. Сябры аднагодкі адразу падаліся ў горад, а калі прыязджалі дамоў, дык казалі мне: "Ты што Сьцяпан, застаешся ў вёсцы і будзеш працаваць за так?" А я нейк не рашаўся пакідаць родную вёску, ды яшчэ хваравітую маці. А аднойчы яна мне сказала: "Сьцяпан, уся моладзь падалася ў горад, а ты?" І тут Сьцяпан падумаў, а можа маці і мае рацыю. І падаўся ў горад Горадню, дзе і ўладкаваўся на працу і стаў гараджанінам. З пражытых 67 гадоў дзьве трэці аддаў гораду. Але да гэтага часу Сьцяпан смуткуе па вёсцы. Вярнуцца ў роднае Дубна? Але ж там ні кала..., ды яшчэ ён і жонка сталі інвалідамі другой групы, працаваць ня могуць.

Сколькі такіх як Сьцяпан, маладых хлопцаў пакінула вёскі ў тыя гады. А каб былі асабістыя гаспадаркі, ды жылі б на сяле. А іх дзеці пакуль вяртацца не зьбіраюцца. Чаму? Таму, што яны не прывучыліся да цяжкай сялянскай працы.

**Фатаграфаваў І.БАРЫСАЎ.**

# УФА ДАЛЁКА, ДЫ БАЧЫЦЬ ВОКА!



"У вас глаўкома, - сказала Г.І.Мажэйка, ўчастковы лекар-акуліст раённай паліклінікі. - Калі захворваньне тэрмінова не лекаваць, то вы хутка страціце зрок." З накіраваньнем райпаліклінікі спадарыня Мажэйка зьвярнулася ў афтальмалагічнае аддзяленьне Гарадзенскага ТМА-2. Аперацыю па падсадцы штучнай тканінкі для арашэньня дыска нерва зроку выканаў мікрахірург І.Р.Цярэшка. З таго часу мінула амаль два гады, зрок у хворай Мажэйка стабілізаваўся, і яе болей не турбуюць моцныя болі, што сьведчыць, што ціск вачэй у норме. Новае аддзяленьне мікрахірургіі, дзе лякуюць цяжкія захворваньні вока метадам башкірскага навукоўца Мулдашава, наведалі карэспандэнт "Пагоні" Г.Астроўскі і фотакарэспандэнт В.Гарошка.

Аддзяленьне невялікае, прыкладна на 30-40 ложкаў. Працуюць тут усяго чатыры ўрачы, якім дапамагаюць 15 медыцынскіх сясьцёр. Іван Раманавіч Цярэшка пра свае спосабы лячэньня глаўкомы расказвае так: "Праблемай лекаваньня ціску вачэй я заняўся гадоў семвосем таму. Саматуж дабіўся накіраваньня ад вабласнога аддзелу аховы здароўя на спецыялізацыю да Уфімскага НДІ мікрахірургіі і трансплантацыі ворганаў зроку. Уфімская школа мяне шмат чаму навучыла, але і ў Горадні ёсьць добрыя дарадцы ў асобе кандыдата медыцынскіх навук Н.Д.Гогінай. Менавіта з Нінай Дзьмітрыеўнай і выконваем большую частку аперацый. Аперацыя па рэваскулярызацыі дыска нерва зрока зараз не адзінае, што выконваецца ў нашым аддзяленьні. Робім вельмі складаныя аперацыі па папярэджаньню дыстрафіі сеткі, лакалізацыі інсультаў пасьля цукровага дыябету. Штодня праводзім па тры-пяць аперацый. Плануем з цягам часу пашырыць аддзяленьне і заняць увесь чацьвёрты паверх новага корпуса ТМА. Упэўненасьць для перспектывы пашырэньня даюць вынікі аперацый. Да нас з паўторным рэцэдывам амаль не вяртаюцца."

Пакуль Іван Раманавіч вёў свой аповяд, сёстры падрыхтавалі да аперацыі чарговага хворага... Яшчэ з хвіліну назіраем, як да аперацыйнай нясуць у сьцерылізатарах неабходны інструментарый, кіслародныя падушкі, апошнім, ва ўсім белым, ідзе хворы. Каб вылекавацца яму ня трэба ехаць да Уфы.

**НА ЗДЫМКУ: І.Р.ЦЯРЭШКА дасьледуе хворую.**

**Фатаграфаваў В.ГАРОШКА.**

# ...І ВАБІЦЬ ІЛЮЗОРНЫ РАЙ

- Ну вось, цяпер усё гатова. Апусьці твар прама ў пакет і ўдыхай глыбока-глыбока...

Я, як і абяцала, пачала паслухмяна выконваць "інструкцыю". Гэта была адна з умоў, на якую я згадзілася дзеля гутаркі з мясцовымі таксікаманамі. Другой умовай была найпаўнейшая сакрэтнасьць і ананімнасьць. Потым, пасьля "вяртаньня на зямлю", я зразумела, чаму першай умовай была менавіта гэта, а ўжо тады - недавер, страх перад магчымасьцю быць раскрытымі, страх перад грамадзкай думкай...

...Я была ў раі. Недзе я ўжо бачыла гэта, а, можа, чытала ці ўяўляла. Я не адчувала цела й з лёгкасьцю плыла ў нябёсах. Пада мной, на зямлі цьвілі кветкі - блакітныя, ружовыя, чырвоныя. Незвычайна агромністыя, дзіўныя. Яны выдавалі гукі. Бы гучаў вялізны, на ўвесь сьвет, арган. Я плакала ад шчасьця. Ня ведаю, чаму я была такой шчасьлівай. Мабыць, таму, што мяне вельмі кахалі. І вельмі кахала я...

- Ала, ты чуеш мяне? - чыясьці настойлівая рука штурхала за плячо. - Ужо ўсё скончылася. Усё. Разумееш?

У вушах яшчэ гучала музыка, якая паступова перарастала ў манатонны гул. Галава станавілася ўсё цяжэй, і да мяне вярталася пачуцьцё голай рэальнасьці. Побач са мной яшчэ блукалі блазнаватыя ўсьмешкі, ліліся сьлёзы. Нехта надрыўна рагатаў. А адна дзяўчына заўзята размахвала рукамі, быццам біла нябачнага ворага...

Навошта ім гэта, навошта? Гэта пытаньне не пакідала ні да таго, як я трапіла ў гэтую кампанію, ні пасьля знаёмства з падлеткамі. У мае шаснаццаць усё было інакш. Мы не шукалі іншага фізычнага й духоўнага стану: нас задавальняла наша, як нам казалі, шчасьлівае дзяцінства. Была наіўная вера ў тое, што лепей за нас ніхто не жыве, што ўсім нам гарантавана сьветлая будучыня, што за нас усе праблемы вырашаць разумныя дарослыя. Было зручна й вельмі спакойна, бо мы верылі на слова: добра - значыць добра, дрэнна - значыць дрэнна. І зрэдку задумваліся над тым, што чорны колер мае розныя адценьні, а белы бывае зусім брудным... Заціснутыя моцным ідэалагічным прэсам, мы ня ведалі, што такое дух свабоды.

Сёньняшнія падлеткі - яны зусім іншыя. Яны вагаюцца й сумняваюцца. Яны разгубленыя. Яны шукаюць сябе ў пакутах, прахозячы да жаданай паласы сьвятла праз бруд і боль. Іх разьняволенасьць - процівага нашай запрыгоненасьці й пакорлівасьці. Іх агрэсіўнасьць - шырма для прыкрыцьця разгубленасьці. Яны не прымаюць тое, што ім падносяць на талерачцы, ня вераць дарослай хлусьні. Прагнуць усё зразумець самастойна, да ўсяго дайсьці сваім розумам.

- Чаму я нюхаю гэта? - Оля дзёрзка глядзіць прама ў мае вочы. А проста мне так хочацца!

- І ты заўсёды робіш тое, што табе хочацца?

- А як жа інакш! Навошта сябе падманваць? Жыцьцё такое кароткае й цяжкае, няўжо ёсьць сэнс пазбаўляць сябе нават маленькіх радасьцяў?!

- А ты ведаеш, што гэта небясьпечна для тваёго здароўя?

- Канешне. Але, думаю, курэньне і ўжываньне алкаголю ня менш шкодныя...

- Оля, а твае бацькі ня ведаюць, як ты праводзіш свой вольны час? Ні пра што не здагадваюцца?

- Ды як жа ім, вечна занятым, здагадацца? Яны, акрамя сваіх праблем, нічога й нікога ня бачаць. Што ім маё непадзельнае каханьне, мае бяссонныя ночы, мае пакуты? Неяк падзялілася з імі, а яны проста пасьмяяліся з маіх пачуцьцяў са словамі: "Нам бы твае праблемы!" і зноў пераключыліся на абмеркаваньне цэн у крамах.

- Твае хаця выслухалі...- да размовы падключаецца хударлявае дзяўчо з вельмі сумнымі вачыма. - А я сваім ніколі нічога не расказваю.

- Чаму?

- П'юць яны моцна. Заўсёды п'яныя.

... Аднаго з членаў кампаніі я ведаю з дзяцінства. І яго бацькоў таксама. Неблагія людзі. Саша ў іх адзін. Таму - усё дзеля яго. Ніколі ні ў чым хлопчык ня ведаў адмовы, вырас у атмасфэры пяшчоты й павагі. На жаль, і яго я бачу сярод сваіх новых знаёмцаў.

- Не кажы нічога бацькам, вельмі цябе прашу, - гэта ўсё, што сказаў мне падлетак. І я ўспомніла эпізод трохгадовай даўнасьці, калі выпадкова ўбачыла ў яго руках запаленую цыгарэту й шклянку з самагонам. Тады я палічыла гэта звычайнай

**(Заканчэньне на 5-й стар.)**



# СУМЕЖЖА

## ВІЛЕНСКІЯ ПАВЕДАМЛЕНЬНІ

Страты сельскай гаспадаркі краіны ад сёлетняй засухі ацэньваюцца ў 780 мільёнаў літаў (195 мільёнаў даляраў ЗША). Больш за іншых пацярпелі раёны Заходняй і Паўднёвай Летувы.

Урад вырашыў выдзяліць з фонду падтрымкі сельскай гаспадаркі дзесяць мільёнаў літаў для аказаньня дапамогі земляробам раёнаў, якія найбольш пацярпелі ад засухі.

* * *

У Вільні адбылося вялікае сьвята польскіх журналістаў і выдаўцоў. Дні польскага друку зарганізавала пасольства Рэспублікі Польшча. Яны далі магчымасьць польскім выдаўцам вывучыць летувіскі рынак. Газеты, прывезеныя ў Вільню, прадстаўлялі шырокі спэктр: ад выданьняў палітычнага характару, банкаўскай газеты да дэтэктываў, спартыўных газет, часопіса мод, выданьняў для садаводаў, мужчын і жанчын. Многія з іх раздаваліся бясплатна.

* * *

Міністр шляхоў зносін Летувы Й.Біржыскіс і расейскі міністр шляхоў зносін Г.Фадзееў падпісалі пратакол, які прадугледжвае падрыхтоўку дагавору аб міжнародных чыгуначных зносінах і прыгранічным руху. Абмеркаваны маршрут пасажырскіх транзітных цягнікоў.

Дагэтуль перавозкі з Летувы ў Расею былі дзешавейшыя, чым з Расеі праз Летуву ў Калінінградзкую вобласьць. Па словах Г.Фадзеева, Расея верне свой доўг Летуве - 21 мільярд 448 мільёнаў рублёў - да канца года.

* * *

Важнейшым гандлёвым партнёрам Летувы ў 1-ым паўгоддзі працягвала заставацца Расея (30,2 працэнта агульнага экспарту і 41 працэнт агульнага імпарту). Далей ідзе Нямеччына (адпаведна 10 і 13,5 працэнта), Беларусь (7,3 і 3,4), Латвія (7,1 і 2,3) і Польшча (4 і 3,6 працэнта). Летува ажыцьцяўляла гандаль са 131 дзяржавай.

* * *

Заканадаўства Летувы дазваляе зараз іншаземцам браць зямлю толькі ў арэнду тэрмінам на 99 гадоў. Немагчымасьць набыцьця яе лічыцца сур'ёзнай прычынай тармажэньня замежных інвестыцый. Таму ўрад накіраваў у Сэйм праект закона аб зьмяненьні 47-га артыкула Канстытуцыі Летувіскай Рэспублікі. Гэта дазволіла б іншаземцам набываць у гэтай краіне зямлю. Калі Сэйм 2/3-мі галасоў не прыме гэтую папраўку, яе можна будзе зноў абмяркоўваць толькі праз год.

* * *

Урад краіны дапоўніў спіс рэчаў, увоз якіх у Летуву для фізычных асобаў абмежаваны. У яго ўключаны цукар: прыватнікам дазволена ўвозіць яго ў колькасьці, не больш 5 кілаграмаў. Сярод тавараў, увоз якіх для фізычных асобаў абмежаваны, знаходзяцца эцілавы алкаголь, лікёра-гарэлачныя вырабы (адной асобе дазволена ўвозіць 1 літр), віно й шампанскае (па два літры), біжутэрыя (агульная маса драгмэталаў і камянёў - 50 грамаў), легкавыя аўтамабілі (адзін).

(М.Г.)



НА ВУЛІЦАХ ВІЛЬНІ.

Фатаграфаваў А.УЛАДАСЕВІЧ.

## ГОРАД, ЯКОГА БОЛЕЙ НЯМА

Дзьве выставы малюнкаў і гравюраў зьмясьціў у гонар свайго 65-годдзя ў Віленскім мастацкім музэі габрэйскі мастак Мойша Перэс. Найбольшую цікаўнасьць віленцаў выклікае экспазіцыя малюнкаў "Старая Вільня".

Пра яе пазаштатнаму карэспандэнту "Пагоні" Г.Янковіч мастак згадаў так:

Калі я трапіў да Вільні 45 год таму, то зразумеў, што гэта той горад, у якім я буду жыць. Спачатку мне падалося, што хаджу сярод дэкарацый. Выключны горад, рамантычная атмасфэра вузкіх вулак, адмысловая архітэктура барокка. Калі распачалася рэстаўрацыя, зразумеў, што ўсю даўніну неабходна зафіксаваць.

На малюнках - цэнтр Старой Вільні. Зараз ад драўлянага горада не засталося й чвэрці. Акрамя таго, Вільня - гэта своеасаблівы Ерусалім беларусаў, палякаў, летувінаў. Таму я й вырашыў зарганізаваць гэтыя дзьве выставы, каб нагадаць віленцам пра іх страчаную спадчыну."

Другая выстава "Тэатр-тэатр" адлюстроўвае творчасьць мастака, што прысьвяціў сваё жыцьцё тэатру як мастак-афармляльнік.

## ПА-БЕЛАРУСКУ - У «КУР'ЕРЫ ВІЛЕНСКІМ»

У расейскамоўнай газеце "Эхо Литвы" кожную пятніцу на працягу амаль года выходзіць старонка Таварыства Беларускай Культуры ў Летуве "Беларус Віленшчыны". І вось навіна: такая ж старонка пачала выходзіць (таксама ў пятніцу) у польскамоўным "Кур'еры Віленскім), які выдаецца ў Летуве ад 1953 года.

Галоўны рэдактар "КВ" Збігнеў Бальцэвіч сказаў:

- Шчыра вітаем нашых сяброў-беларусаў на старонках "Кур'ера". Ад веку наша шматмоўная зямля была багатая менавіта ўзаемным пранікненьнем культураў і традыцыяў. Яна багатая таксама нашай супольнай гісторыяй, якую нельга забыць, а сьветлыя старонкі якой павінны захавацца ў нашай памяці.

У.СТРУМІЛА.

## КРАДЗЕЖНІКІ З КОЎНА

Нядаўна тры сямейныя пары ковенскіх бізнэсмэнаў, вяртаючыся да дому з Аўстрыі, дзе адпачывалі ў высакагорных санаторыях, па шляху вырашылі зрабіць некаторыя пакупкі ў Нямеччыне. На ўезд у краіну ніводная пара не мела візы. Аднак, нямецкія мытнікі не зьвярнулі на такую дробязь увагі, што падзадорыла "турыстаў" на дзеяньні. Трапіўшы да гандлёвага цэнтру, летувісы зьдзейсьнілі крадзёж. Іх заўважылі ахоўнікі і ўстанавілі сьлежку. Ковенцаў здымалі скрытай камерай паўсюдна. Калі ж патрэбнага відэаматэрыялу набралася досыць, на дапамогу выклікалі паліцыю.

На пастарунку няпрошаных гасьцей арыштавалі і сканфіскавалі рэчы, якія мясцовы суд ацаніў у 15 тысяч марак.

Каб грамадзяне іншай дзяржавы апынуліся на волі, па законах Нямеччыны, за іх неабходна выплаціць залог па 50 тысяч марак за кожнага. У іншым выпадку іх чакае турэмнае заключэньне ад паўтара да двух гадоў.

Выпадак, што адбыўся з летувіскімі камерсантамі, не адзіны. Колькі месяцаў таму у ЗША пагарэлі на крадзяжы баскетбалісткі клуба "Літ-Поліінтэр", якія вынесьлі з крамы тавараў на 550 даляраў.

Міністэрства замежных справаў Летувы ў роспачы, бо на выплаты штрафаў ад такой "турыстычнай" дзейнасьці сваіх грамадзян штогод вылятае з касы дзяржавы кругленькая сума.

## КАТАМАРАН З МОРАНАЙ ФАНЕРЫ ЧЫРВОНАГА ДРЭВА

Першы катамаран моранай фанеры чырвонага дрэва, што прадукуецца ў Францыі, збудавала мэмэльскае ЗАА "Яхту стаціба". На думку будаўнікоў катамарана - гэта моцнае судна 12 метраў даўжынёй і шэсьць метраў шырынёй. Яно сканструявана з двух злучаных між сабой карпусоў, у якіх абсталяваны двухмесныя каюты з усімі выгодамі на восем членаў экіпажу.

Катамаран мае два віды хады: вінтавы і парусны. Пасьля трох выпрабавальных рэйсаў па Куршскаму заліву і Балтыйскаму мору судна пойдзе да порту Любэк, дзе адбудзецца яго прэзэнтацыя. Гэтым-самым летувіскія канструктары драўляных марскіх суднаў спадзяюцца даказаць сьвету, што на Летуве захаваліся традыцыі будаўніцтва лёгкіх прагулачных яхтаў.

(з.д.)

## АД ШТУРВАЛА ЗА БАРАНКУ

Трапіўшы нядаўна да Вільні, наняў таксі, каб даехаць да патрэбнага месца. Вадзіцель, пачуўшы беларускую мову, заўсьміхаўся і адказаў мне таксама па-беларуску. Па дарозе даведаўся, што вадзіцеля завуць Андрэй Барташэвіч. Спадар Андрэй мае поўных сорак два гады, беларус. Нарадзіўся тут, у Вільні. Дваццаць год таму скончыў лётнае вучылішча. Працаваў пілотам Віленскага атраду грамадзянскай авіяцыі. Мае першую катэгорыю пілота, агульны стаж паветраных гадзін налічвае звыш васьмі тысяч. Прыкладна год таму прачытаў сваё прозьвішча ў сьпісе звольненых з працы па скарачэньню. У Барташэвіча двое непаўналетніх дзяцей, таму ён адразу ж перасеў ад штурвала за баранку. Працай ня грэбуе, бо жыць сям'і на нешта трэба. Добра, што была свая машына. У іншым выпадку давялося б браць легкавік у арэнду, плаціць за гэта вялікія грошы, якіх у бюджэце сям'і ня густа. Жонка яшчэ раней за яго страціла працу, атрымлівае невялікую рэнту, якой ня хопіць аплаціць нават за ацяпленьне кватэры ў зімовы час. Да таго ж яна ня мае грамадзянства, а толькі від на жыхарства, бо ў 1990 годзе ад'яжджала да родных мясьцін на Паволжжа, дзе амаль два гады апекавала хворых бацькоў. Тады ў дзевяностым годзе ў сувязі з ад'ездам на працяглы тэрмін з Летувы жонка страціла прапіску і працу.

Таксаваць у Вільні, па словах спадара Андрэя, ня лёгка. Большасьць беспрацоўных мужчын аддаюць перавагу працы на прыватных таксі. Дзённа Барташэвіч робіць прыкладна 10-12 рэйсаў. Зарабляе сорак-пяцьдзесят літаў. Можна зарабіць і болей, працуючы толькі начным таксістам. Яшчэ болей можна мець, калі трапіш да якой-кольвечы кампаніі па дастаўцы прастытутак на выклік. Трапіцца Андрэю такая магчымасьць, ён абавязкова скарыстае з яе. Песьціць сябе надзеяй, што наноў апынецца за штурвалам самалёта, не жадае, бо добра ведае палітыку правячых колаў на Летуве. Сябе лічыць ахвярай гэтай палітыкі. Нельга на адзін капыл мераць усіх. А летувіскія законатворцы не жадаюць бачыць гэтага, ім усе рускія: палякі, беларусы, украінцы, татары, грузіны.

Летува, на думку спадара Барташэвіча, ад дэмакратычнай рэспублікі перарастае ў расісцкую дзяржаву. Зараз, маючы пашпарт грамадзяніна Летувы і валодаючы дасканала дзяржаўнай мовай, нельга чалавеку іншай нацыянальнасьці разьлічваць заняць кіруючую пасаду. Найболып, на што можа разьлічваць гэтак званая "некарэнная меншасьць" - адкрыць свой бізнэс. Андрэй Барташэвіч кажа так таму, што нядаўна размаўляў са сваім былым калегай. Той распавёў яму, што трапіў у чаргу пад скарачэньне. Летувісы робяць гэта надзвычай проста: ставяць на кіруючыя пасады маладых нявопытных хлопцаў, якія праходзяць усяго скарочаныя курсы, а вопытных пілотаў выкідаюць на вуліцу.

Калега вырашыў наладзіць сваю справу, ужо мае ліцэнзію на вытворчасьць паліэтыленавых пляшак, запрашае да справы і Андрэя. Але Андрэй вырашыў пакуль што падумаць. Не таму, што няўпэўнены ў сабе, а баіцца пры чарговых выкрунтасах урада зусім застацца без сродкаў на існаваньне. Кожны, хто па пашпарту не летувіс, у Летуве саматуж шукае выйсьця з нялёгкага становішча. Сёй-той прадае жытло і ад'язджае шукаць шчасьця ў Польшчы, Нямеччыне, Фінляндыі. Андрэю ехаць няма куды, у Вільні жывуць яго бацькі, родныя. Тут яго радзіма, тут ён нарадзіўся і не трацiць надзеі, што дзяржаўны летувіскі карабель зьменіць свой курс і на Летуве запануюць правы чалавека і будзе ў павазе яго годнасьць.

Г.АСТРОЎСКІ.

## ВОДАРАСЬЛІНА НАДУЛАРЫЯ СЬМЯРОТНАЯ НЯ ТОЛЬКІ ДЛЯ САБАК

Па паведамленьнях шведзкай газеты "Дагенс ніхетер", у водах Балтыйскага мора высокімі тэмпамі ідзе распаўсюджваньне ядавітых водарасьлін. Вядома, што, патрапіўшы ў арганізм сабакі, надуларыя выклікае сьмяротны крывяток ныркаў. Небясьпеку гэтая водарасьліна нясе таксама і людзям, асабліва дзецям. Значная колькасьць надуларыі выяўлена на ўсходнім узбярэжжы Балтыйскага мора Швецыі.

На думку шведзкіх навукоўцаў, якія дасьледуюць праблему ўзьнікненьня ядавітых водарасьлін, у басейне Балтыйскага мора надуларыя распаўсюджваецца хутка дзякуючы вялікаму ўтрыманьню ў марской вадзе азотных і фосфарных злучэньняў.

## ЯН ПАВЕЛ II СУПРАЦЬ ЖАНЧЫН-КСЯНДЗОЎ

Папа Ян Павел II, выступаючы перад пяцьцю тысячамі вернікаў з штонядзельнай імшой на пляцы Сьвятога Пятра ў Рыме, яшчэ раз пацьвердзіў, што Рымская каталіцкая царква ня можа высьвечваць жанчын у ксяндзы. Галоўны аргумент нягоды Папы Яна Паўла II прагучаў так: "Ісус Хрыстос наканаваў выкананьне абавязкаў сьвятароў толькі асобам мужчынскага полу. Да таго ж, Хрыстос прызваў толькі 12 сваіх апосталаў нясьці добрыя весткі, весьці службу, адпускаць грахі і прысьвячаць сваё жыцьцё распаўсюджваньню Эвангельскага вучэньня ва ўсім сьвеце." У дадатак да сказанага папа падкрэсьліў, што Ісус не трымаўся догм таго часу, ніколі не прыніжаў жанчын і роўна ставіўся як да кабет, так і да мужчын.

(з.д.)

 



# СУМЕЖЖА

## ВЕСТКІ З ПОЛЬШЧЫ

На нечарговай сэсіі гарадзкой рады ў Бельску-Падляскім пасьля трох месяцаў перамоў паміж Бельскай кааліцыяй, да складу якой уваходзяць беларускі выбарчы камітэт і кааліцыя “Еднасьць”, быў абраны бурмістр гораду. Ім стаў А.Сьцепанюк, беларус па паходжаньню. Спадар Сьцепанюк да гэтага працаваў выкладчыкам беларускай мовы Беларускага ліцэю Беластоку.

У гарадку пачаліся археалагічныя раскопкі ў рамках праграмы дасьледаваньняў археалагічна-гістарычнага сумежжа пад назовам “Падляшша ВКЛ”.

Аб’ектам вывучэньня будзе сярэдневечнае гарадзішча.

Досьледамі таксама цікавяцца археолагі й гісторыкі Беларусі.

* * *

Вольга Казлоўская з Міклашоў і Тэрэза Прызмат з Васілеўкі атрымалі ўзнагароды Аскара Кольбэрга за заслугі ў народнай творчасьці. Гэта самая высокая ўзнагарода краю, якой узнагароджваюцца народныя мастакі.

* * *

П’еса Т.Слабадзянца “Прарок Ільля”, якая сёлетнім летам дэманстравалася на польскім тэлебачаньні, выклікала адмоўныя пачуцьці сярод праваслаўнага насельніцтва Беласточчыны. Разьбіральніцтвам займалася краёвая рада Радыё- і тэлевяшчаньня, члены якой пагадзіліся з думкай, што драма Слабадзянца - гэта твор мастацтва, аднак зрабілі навід кіраўніцтву тэлебачаньня, якому належыць мець уяўленьне, што спэктакль, нягледзячы на рэжысуру, глядзіць шматмільённая аўдыторыя, якой тэма спэктаклю абражае рэлігійныя пачуцьці. Цікава да гэтага можна дадаць выказваньні Яна Шафранца з Беластоку. Ён ахарактарызаваў спэктакль вульгарызаваным пасіённым выданьнем.

(зд)

## ФУНДУЕ «ГАЛЮКС»

Фірма Галіны Анафрыюк “Галюкс” (вядомая сваімі фундатарскімі справамі паэтычнага конкурса Беларускай рэдакцыі Беластоцкага радыё) месьціцца ў квартале Кляосін (першы прыпынак за чыгуначным пераездам). Сам квартал забудаваны шыкоўнымі прыватнымі рэзідэнцыямі. Прадпрыемства спадарыні Анафрыюк складаецца з гуртавога складу вопраткі і з невялічкага швацкага цэху. Разам з кіраўніцтвам тут працуе шэсьць спецыялістаў.

Бізнэс гуртавога складу ня вельмі мудрагелісты. Гуртавік купляе ад вытворцы тавары па адным кошце, а прадае іх па новай цане, менавіта па той, за якую ў яго набудуць тавар іншыя. За кошт розьніцы і складаецца прыбытак фірмы “Галюкс”. Таму, каб выжыць і мець яшчэ і дадатковыя вольныя сродкі на фундатарства, трэба шмат працаваць. Гэта, пакуль што атрымліваецца, бо як кажа пра сябе спадарыня Галіна, - яна ўмее трымаць нос па ветру. Яе прадпрыемства дзейнічае з 1990 года і знаходзіцца на шляху паступовага разьвіцьця. Галоўнае, не абмяжоўвацца толькі пашырэньнем асартыменту. Неабходна шукаць рынкі збыту гатовай прадукцыі. У Польшчы стрымгалоў мяняюцца законы, што тычыцца гаспадарчай дзейнасьці. Галоўнае патрабаваньне да супрацоўнікаў у такой віратлівасьці законаў - прафесіяналізм і самаўдасканаленьне.

“Галюкс” ня мае пакуль што юрыста і Галіна Анафрыюк самастойна разбіраецца ў заблытанасьці законаў. Каб адпавядаць стылю мадэрновага кіраўніка, яна запісалася на платныя курсы да школы бізнэсмэнаў, дзе вывучае юрыспрудэнцыю і справаводзтва. Заняткі праходзяць па суботах і нядзелях і на сям’ю ў гэтай жанчыны зусім няма часу. Але аб гэтым яна не шкадуе, бо лічыць, што гандаль - гэта такая дзялка бізнэсу, дзе без сталога ўдасканаленьня ведаў ня выжывеш. Найвялікшая карысьць ад студыяў - кантакты, якія ў школе можна здабыць таму, што тут слухаюць лекцыі камэрсанты з многіх рэгіёнаў Польшчы. Дзякуючы гэтаму можна пашыраць рынак, якім пакуль што ў асноўным зьяўляецца Беласточчына. Але ёсьць ўжо кантакты, ёсьць пагадненьні на гандаль з Гарадзеншчынай, Берасьцейшчынай, Летувой, Украінай. Сюды гуртавы склад “Галюкс” плануе пастаўляць тавары з Кітаю, Тайланду, Карэі.

(з.д.)

## МІЖНАРОДНЫ СОЙМ МОЛАДЗІ

15-18 ліпеня 1994 г. у м.Кракаве (Польшча) праходзіў сойм моладзі Сярэдняй і Ўсходняй Эўропы. Імпрэзу арганізавалі: Фундацыя Маладой Палоніі “Польшча-Эўропа-Сьвет”, агульнапольскі “Клуб Аматараў Літвы”, “Таварыства Польшча-Украіна”, “Клуб Польшча-Расея”. Удзел у сойме прынялі дэлегацыі з Летувы, Беларусі, Украіны, Расеі, Вугоршчыны, Нямеччыны, Югаславіі, Славакіі, Чэхіі, Балгарыі, Славеніі й Польшчы.

Міжнародны сойм моладзі быў прысьвечаны праблемам фармаваньня народных традыцыяў у духу паяднаньня народаў, іх узаемнага пранікненьня на сутыкненьні хрысьціянскага Захаду ў эканамічныя й культурныя вартасьці.

16 і 17 ліпеня ў Ягелонскім унівэрсітэце быў праведзены сымпозыум. З рэфэратамі выступілі: Юры Клачоўскі (Польшча), Яраслаў Ісаевіч (Украіна), Альфрэд Бумблаўскас (Летува), Янка Трацяк (Беларусь), Лешак Бальцаровіч (Польшча), Ян Савіцкі (Летува), Ганна Гарызонтава (Расея) і іншыя.

Выступоўца ад беларускай дэлегацыі зьвярнуў увагу прысутных ня толькі на агульныя тэндэнцыі разьвіцьця народаў сумежжа, але й на адметныя рысы гісторыі й лёсу свайго народу; закрануў праблемы месца пражываньня нацыі (цэнтр Эўропы) і шматканфэсыйнасьці, што, вядома, зрабіла вялікі ўплыў на палітычнае і эканамічна-культурнае жыцьцё народу. Колькі слоў было сказана й пра сучасны палітычны момант.

Удзельнікам сойму была прапанавана цікавая экскурсыйная праграма. Яны наведалі Чэнстахова й азнаёміліся з багатай гістарычна-культурнай спадчынай сярэднявечча ў Кракаве: касьцёлам сьв. Францыска, Марыянскім касьцёлам, касьцёлам сьв. Ганны, Вавэлем і Ягелонскім унівэрсітэтам - усё гэта вельмі моцна ўразіла тых, хто ўпершыню сутыкнуўся з другой эпохай, з другой культурай, з другім жыцьцём...

Чарговы сойм моладзі плануецца быць на Ўкраіне ў наступным годзе.

Янка ТРАЦЯК.

## НАРОДНЫ АЗДАРАЎЛЕНЧЫ ЦЭНТР

(вул.Болдзіна, 7)

У нас вы зможаце стала падтрымліваць жыцьцёвы тонус, загартоўваць арганізм, зьняць стому і падвысіць працаздольнасьць.

Спрадвек лазьню называюць - народны лекар.

Запрашаем наведаць саўны на два, тры і пяць месцаў.

Саўны працуюць з 13.00 да 24.00. Ёсьць мажлівасьць зрабіць папярэднюю замову па тэлефонах: 33-03-18, 33-99-37, 33-46-64, а таксама набыць абанементы на поўны квартал як за наяўны, так і безнаяўны разьлік.

У лазьні працуюць жаночае і мужчынскае аддзяленьні з басейнам: чацьвер, пятніца - з 13.00 да 21.00; субота, нядзеля - з 9.00 да 21.00. У цэнтры можна карыстацца паслугамі масажыста, цырульніка, наведаць салярый, зрабіць педыкюр.

Шчыра запрашаем у наш аздараўленчы цэнтр!

## ВАМ ДАПАМОЖА ТЭЛЕФОН ДАВЕРУ

Калі у вас ёсьць праблемы і няма нікога, хто б дапамог вам іх вырашыць, тэлефануйце па тэлефоне 45-47-95 штодня з 7 да 24 гадзінаў. Вас уважліва выслухаюць, падкажуць, дадуць параду і абавязкова дапамогуць.

## МІНІСТР РАІЦЬ

Сітуацыя на дарогах Польшчы ў сэнсе злачыннасьці небясьпечная, але не катастрафічная. Таму турыстам, якія едуць транзітам праз гэтую краіну, трэба aберагацца магчымасьці нападу. Аб гэтым заявіў міністр унутраных справаў Польшчы Анджэй Мілчаноўскі.

На аўтадарогах адбываюцца ўзброеныя рабункі, затрымліваюцца аўтобусы й легкавыя аўтамабілі, абкрадаюцца іх пасажыры, а часта выкрадаюцца й самі аўтамабілі. Часьцей за ўсё ў гэтых нападах удзельнічаюць і становяцца пацярпелымі грамадзяне рэспублік былога СССР, растлумачыў Мілчаноўскі.

У сувязі з гэтым польская паліцыя ажыцьцяўляе патруляваньне галоўных транзітных шляхоў краіны.

Мілчановскі параіў турыстам выкарыстоўваць галоўныя аўтамагістралі Польшчы ў дзённы час і спыняцца толькі на аўтастаянках. Бясьпекі можна таксама дамагчыся, калі ехаць за якойсьці з польскіх аўтамашын, дамовіўшыся папярэдне аб гэтым, - дадаў Мілчаноўскі.

МГ

## РАЗКАМПЛЕКТАВАЛІСЯ

Вялікі клопат выклікае недахоп лекараў амаль ва ўсіх гмінных асяродках у кіраўніцтва Беластоцкага ваяводзтва Польшчы. Адпрацаваўшы год-другі маладыя спецыялісты пакідаюць гмінныя шпіталі: шукаюць працу ў буйных гарадах. Асабліва складанае становішча з лекарамі такіх спецыфічных медыцынскіх прафесіяў, як стаматолагі, педыятры, гінеколагі. З гэтай нагоды кіраўніцтва ваеводзтва выступіла з ініцыятывай запрасіць на працу да гмінных шпіталяў лекараў з Горадні, Менску, Берасьця. Польскі бок прапануе беларускім лекарам добрыя фінансавыя ўмовы, а ў некаторых гмінах і добраўпарадкаванае жытло.

Дарэчы, чым хутчэй чыноўнікі абодвух дзяржаў пераадолеюць фармальныя адміністратыўныя цяжкасьці, тым хутчэй беларускія лекары, якім, каб атрымаць працоўнае месца на Радзіме неабходна гадамі стаяць на чарзе, знойдуць сабе прафесіянальнае прымяненьне ў суседняй краіне.

(з.д.)

## ...І ВАБІЦЬ ІЛЮЗОРНЫ РАЙ

(Пачатак на 3-й стар.)

падлеткавай цікаўнасьцю (хто з нас, употай ад строгага бацькоўскага вока, не праходзіў “школу сталеньня” ў кампаніях старэйшых сяброў?). Але з Сашкай усё аказалася больш складана...

Пры сустрэчы з яго мамай я, бы знарок, завяла банальную размову пра духоўную разбэшчанасьць моладзі, адсутнасьць узаемаразуменьня паміж дзецьмі й бацькамі. “Які прыклад дзеці бачаць дома, у якой атмасфэры выхоўваюцца, тое і ўсмоктваюць, - ажыўлена падтрымала гамонку Сьвятлана. - Вось мы, напрыклад, пры Сашы і не сварымся, і не палім, і не п’ем, усе непрыемнасьці ўтойваем. Навошта яму гэты бруд?

Вось так яны й жывуць: кожны ўпотай паліць (але на словах яны з пагардай ставяцца да курыльшчыкаў), робяць выгляд безпраблемнага існаваньня, дакладна ведаюць, “что такое хорошо, и что такое плохо”... Дасьціпна маскіруецца ўсё: і праблемы, і няўдачы, і фінансавыя крызысы, і сямейныя сваркі. Дзеля любага сына...

А ён, гэты сын, як ніхто іншы, скурай адчувае хлусьню. І не выносіць яе. Яму не патрэбныя ілюзіі дабра й спакою. Яму патрэбныя сапраўдныя дабро й спакой, шчырасьць у адносінах, суперажываньне. Менавіта гэта шукае ён у кампаніі сяброў.

Я глядзела на Сашавыя мутныя вочы й думала: Божухна, як жа не хапіла яму жыцьцёвай праўды! Як не хапіла сьлёз за мацярынскія праблемы, бяссонных начэй з-за бацькавых непрыемнасьцяў, вечарынак з бацькоўскімі сябрамі, шчырых прызнаньняў і нават канфліктаў, барацьбы, душэўнага болю, проста звычайнага бацькоўскага раўнадушша...

... Нішто так не падманліва, як зьнешнасьць. Прычына гэтага ў тым, што як толькі нас пакідае дзяцінства, мы імкнемся быць ня тымі, хто ёсьць на самой справе. І ад гэтага ўжо з юных год наша фізычная форма надзейна хавае сапраўднае “я”. Падлеткі, сярод якіх я правяла чатыры гадзіны, яшчэ не зусім асвоіліся з новай, дарослай абалонкай. Пад іх накачанымі мышцамі, сьвітэрамі 48-га памеру, цудоўнымі жаночымі формамі яшчэ тлее дзяцінства. Яшчэ прыродная сумленнасьць і чысьціня супраціўляюцца ілжы й штучнай грубасьці. Але супраціўленьне становіцца ўсё слабейшым... Бо побач няма дарослых, якія б дапамаглі юным чалавечкам выслабаніць іх адзінокія душы з палону турмы, зробленай імі ж самімі.

Калі чалавек адзінокі - ён часта сябе ненавідзіць.А гэта - адпраўная кропка да ўсеагульнай нянавісьці, да непрыняцьця сьвету й яго законаў...

* * *

- Знайшла пра каго пісаць! Пра вылюдкаў гэтых! - Сашава мама з абурэньнем размахвала рукамі. - Па іх даўно плачуць міліцыя й нарколагі!

- Шкада толькі, што бацькі ня плачуць...- я ўсім сэрцам, як ніколі раней, пашкадавала яе сына, усіх тых незразумелых, складаных, і да болю адзінокіх дзяцей - падлеткаў, якія ўцякаюць ад рэчаіснасьці ў ілюзорны рай гэткім прымітыўным спосабам. Ім дрэнна тут, побач з намі. Чуеце, людзі? Ці ёсьць бяда, большая за гэту? І ці варта зьдзіўляцца, чаму бездапаможным і хворым старым дрэнна й адзінока побач са сваімі ж роднымі дзецьмі? Сёньня ім бракуе менавіта таго, чаго ўчора яны не дадалі сваім любым чадам - цеплыні духоўнай. І моўчкі глытае сьлёзы сьсівелая матуля, атрымліваючы ад сына рэдкі пачастунак і не адчуваючы пры гэтым яго любові, роднасьці...

Гэта ня дзіва. Гэта проста працяг той даўняй гісторыі, калі яна, маладая й прыгожая, адкупалася ад надакучлівага малюга, а потым - дзёрзкага падлетка, цукеркай ці цацкай, веласіпедам ці шыкоўным адзеньнем.

Толькі бацькі вінаватыя ў тым, што аднойчы яны й іх дзеці становяцца духоўнымі чужынцамі. Але замест таго, каб каяцца, шукаць прычыны, імкнуцца вярнуць дамоў дзіцячую душу, яны пачынаюць абвінавачваць ва ўсіх грахах школу, вуліцу, міліцыю...

Маральна аслабленага, няўпэўненага ў сабе падлетка зусім нескладана растаптаць бруднымі ботамі, зрабіць з яго вора, наркамана, злачынцу. Вось чаму я перакананана, што на лаве падсудных побач з малалетнімі злачынцамі павінны сядзець і іх бацькі. Гэта было б справядліва.

Усе дзеткі нараджаюцца аднолькава чыстымі. Бы ліст паперы. Што на гэтай паперы напішуць мама й тата, тое й прачытаюць людзі.

Адзін вельмі разумны чалавек - сцэнарыст Надзея Кажушаная сказала: “Што я не люблю ў жыцьці, дык гэта паўзы. А цяпер ідзе такая вялікая-вялікая паўза. Гэта страшна. Паўза - самае страшнае ў жыцьці. Трэба чакаць, трэба цярпець, рыхтавацца да чагосьці. Да чаго, калі трэба жыць? Жыць і жыць! А не рыхтавацца...”

У гэтай трывожна-незразумелай сітуацыі ніякавата й цяжка ўсім. Але найбольш - нашым дзецям. У пяшчотным узросьце, вы ж памятаеце, любая дробязь падаецца непапраўнай бядой. А мы замест падтрымкі й разуменьня кідаем ім гэткае пагардліва-скэптычнае: “Нам бы вашы праблемы...”

А.БІБІКАВА.

 

